# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 3 (1653) ГОД XXXIII БЕЛАСТОК 17 СТУДЗЕНЯ 1988 г. ЦАНА 12 зл.




Была зіма. Мо яшчэ будзе?..

Фота Ул. Завадскага.

## ПЛЕНУМ АДДЗЕЛА БГКТ У САКОЛЦЫ

Сакольскае праўленне аддзела мае ў сваім ведамстве 10 гурткоў БГКТ, у якіх налічваецца 206 членаў. У мінулым годзе па 2 сходы адбыліся ў Крынках, Слоі, Паўночным Востраве, Сухінічах, Саколцы, Гаркавічах і Піражках. Апошнія сходы былі справаздачна-выбарнымі. Найбольшы гурток — сакольскі. У ім 49 членаў. Падпісчыкаў „Нівы" найбольш у тых вёсках, у якіх існуюць гурткі БГКТ, але паказчык гэты далёка недастатковы, таму далейшай задачай аддзела з'яўляецца шырэйшая папулярызацыя нашага беларускага тыднёвіка. Другая задача, якую ставіць перад сабою праўленне аддзела, — гэта далейшае збіранне экспанатаў для Беларускага музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху ў Гайнаўцы. На гэты музей праўленне прадало ўжо гэтак званых „цаглінак", спецыяльных друкаў, на 7500 зл.

Аддзел БГКТ вялікую ўвагу зверне на конкурсы, якія арганізуе ГП БГКТ, асабліва на песенны конкурс для школьнай моладзі. Да гэтага часу не ўдалося на Сакольшчыне стварыць харавы калектыў у якой-небудзь мясцовасці — няма спецыяліста. Сама моладзь можа толькі арганізаваць вечарыну. У Піражках нядаўна цікава гулялі на традыцыйных „Андрэйках". Да традыцыі праўлення аддзела залічваецца студзеньскі навагодні карнавальны баль. І сёлета праўленне аддзела зрабіла ўсё, каб ён адбыўся як найлепш, каб споўніў сваю інтэгруючую, ядналючую ролю.

Аб усіх гэтых справах гаварылася 20 снежня на пленарным пасяджэнні аддзела. На ім з дакладам выступіў намеснік стар-

(Працяг на стар. 6)

## З рэпарцёрскіх запісак

## ЗВЫЧАЙНЫ ЛЁС ЦІХАНА МІРАНЮКА

Найперш быў ліст:

*„У рэдакцыю „Нівы" ў Беластоку.*

*Звяртаюся з просьбай, калі гэта магчыма, прыехаць у вёску Белкі, што ў Нараўскай гміне, да грам. Міранюка Ціхана. Гэты чалавек нарадзіўся ў 1896 годзе. Жонка яго Марыя на дзесяць гадоў маладзейшая. Яны — найстарэйшыя жыхары ў гэтай вёсцы. Грам. Міранюк Ціхан мае цікавую аўтабіяграфію і добра памятае час Кастрычніцкай рэвалюцыі, а таксама ведае ўсе абрады, якіх людзі трымаліся ў гэтай мясцовасці".*

Ліст гэты падпісаў сын Ян. Да такіх пісем мы ў „Ніве" ніколі абыякава не адносімся. Калі людзі нас просяць, значыць, мы людзям патрэбны!

А тут яшчэ просяць нас да чалавека, які мае за сабою 92 гады жыцця. Гэта ж жывая гісторыя нашага роднага Беластоцкага краю! Колькі розных грамадска-палітычных пераўтварэнняў здзейснілася за гэты час на вачах дзеда Ціхана! Нарадзіўся ён вернападданым апошняга цара з роду Раманавых. У час першай сусветнай вайны — як бежанец і як салдат — зведаў шырокія прасторы Расіі, а калі вярнуўся разам з бацькамі ў родныя Белкі, тут ужо гаспадарылі палякі, якім улада дасталася з рук нямецкіх акупантаў. Пасля — кароткі перыяд Савецкай улады, ды зноў паўторна — нямецкая акупацыя, на гэты раз болей жорсткая, бо гітлераўская, фашысцкая. Год 1944, вызваленне. І зноў пад польскай уладай, але ўжо сваёй, народнай, якая дзеду Ціхану і яго жонцы Марыі на старыя гады абяспечыла скромную, але пастаянную, пажыццёвую пенсію. Амаль 25 тысяч злотых на іх дваіх, як на цяперашні час, не занадта многа, але поўнасцю дастаткова, каб абяспечыць найбольш неабходныя патрэбы.

Хата ў Міранюкоў тыповая

(Працяг на стар. 4)




### І НАМ ЦАГЛІНКА

Такую падзяку ад грамадскага камітэта пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы атрымалі працаўнікі рэдакцыі „Ніва" і яе атрымае кожны, хто прышле грошы з-за граніцы, або ў Польшчы ўнясе не менш 5 тысяч злотых. Яна даецца таксама і тым, хто ўложыць сваёй грамадскай працы ў пабудову Музея не менш, чым на 5 тысяч злотых, таксама і тым, хто перадасць Музею нейкія цікавыя экспанаты.

А экспанатаў гэтых ёсць яшчэ нямала па людзях. Вось і сёння, калі мы рыхтуем гэты нумар, прыйшла да нас у рэдакцыю наша верная чытачка і вядомая спявачка Надзея Дудзік з Гарадка, якая таксама непакоіцца, што будзе з яе старымі кроснамі, бараной-драпачом з сямю зубамі, з вялікай капанькай, у якой калісьці купаліся, ды і з іншымі рэквізітамі мінулага... 75-гадовая Надзея Дудзік вельмі баіцца, каб усё гэта хаця не пагніло і не прапала. А каб ведалі, дзе яе шукаць, вось і адрас наша чытачка падае: Гарадок, вул. Міхалоўская 49.

(ач)




### АБРАЗОК ЧАЦВЁРТЫ

Невядома ад каго даведваемся, што перад нашай школай у Рыбаках стаіць савецкая зенітная гармата і што можна на ёй „паездзіць". Пераадолеўшы боязь, рашаем ісці па-за гумнамі ў Рыбакі. У Рыбакі з Бандароў усяго метраў 200-250, і таму праз некалькі мінут мы ўжо знаходзімся ў Рыбаках. Сапраўды недалёка ад школы стаіць прыгожая зенітная гармата. Рыбацкія хлопцы ўжо прывязалі да канца дула гарматы пастронак і праз кожныя некалькі мінут у гэты пастронак сядае хлопец з Рыбакоў. Адзін з хлопцаў сядзіць пры рукаятках і хутка іх круціць. Ад гэтага ўся гармата вельмі хутка круціцца вакол сваёй восі. Зразумела, што нам таксама хочацца паездзіць на гармаце, але рыбацкія хлопцы нас да яе не дапускаюць. Гавораць, што гармата іх уласнасць. Мы, аднак, пераконваем іх, што дарога належыць усім і што тое, што на дарозе, таксама наша супольнае.

Хтосьці падказвае, што гармата круцілася б намнога хутчэй, калі б частка хлапцоў рукамі папіхала яе „падлогу". У такой сітуацыі рыбачкі згаджаюцца, каб і мы ўдзельнічалі ў аперацыі. І сапраўды, гармата, калі яе папіхаць рукамі, са страшэннай хуткасцю віруе. Нарэшце, чарга даходзіць да мяне і я сядаю на пастронак. Пачынаецца дзівосная карусель, і здаецца мне, што я сяджу на месцы, а навакольны свет з вар'яцкай хуткасцю віруе вакол мяне.

### АБРАЗОК ПЯТЫ

Не паспелі мы па-сапраўднаму нацешыцца круцёлкаю, як




хтосьці з жыхароў Рыбакоў сказаў нам, што нешта вельмі цікавае дзеецца пры хаце „Назаркавых".

Назаркавы — гэта два браты, Сяргей і Валодзя Назарка, якія жывуць у канцы Бандароў. Пакідаем гармату і грамадой вяртаемся ў Бандары. Падышоўшы, бачым, што нешта дзеецца не на панадворку ў Назаркавых, а вакол высознай ліпы, якая расце метраў у пяцідзесяці ад гэтага панадворка. Пры ліпе сабралася каля паўсотні немцаў. Усе яны голасна галдзяць і, задраўшы галовы, узіраюцца ў бок верхавіны ліпы. Адзін з немцаў, углядзеўшы нас, грозна хмурыць бровы, хапаецца за кабуру, а другую руку заціскае ў кулак. Мы адскокваем метраў на пяцьдзесят назад, затрымліваемся і пачынаем прыглядвацца.

— Хлопцы, — кажа Лёнік Хлябіч з Рыбакоў, — на верху ліпы хтось сідзіт.

Прыглядаемся і бачым, што сядзіць на ліпе савецкі салдат.

Немцы ўсё галасней крычаць, але мы нічога з іх крыкаў не разумеем. Урэшце бачым, што набліжаецца да ліпы доўгавязы немец, які страляў вераб'ёў і гаварыў аб тым, што праз дзесяць дзён нямецкая армія будзе ў Маскве. Доўгавязы пачынае ўзірацца ў бок верхавіны ліпы і ўрэшце крычыць: „Иван, слезай, а то убʼём, Иван, слезай, а то убʼём! Иван слезай, убʼём!".

З верхавіны раздаецца голас салдата. Мы не зусім разумеем, што крычыць чырвонаармеец. У пазнейшым часе ўсе ў Бандарах гаварылі, што чырвонаармеец крыкнуў: „Не твоя пасадила, не твоя снимет!"

Падзеі вакол ліпы пачынаюць развівацца хутчэй. Адзін з немцаў, бадай, афіцэр, бярэ ад салдата „камарыка". накіроўвае яго на чырвонаармейца — і да кароткія „тррры! тррры!" раздаюцца вакол. Чырвонаармеец валіцца ўніз, быццам затрымліваецца на некаторых галінах, але так толькі на момант. Цела салдата падае ўсё ніжэй і ўрэшце, вырваўшыся з кроны дрэва, цяжка звальваецца на зямлю. Немец, які страляў, падыходзіць да чырвонаармейца і нагой пераварочвае яго ўверх тварам. Немцы яшчэ хвіліну нешта гергічуць і раптам, як па камандзе, адварочваюцца і ідуць у вёску.

Мы паволі набліжаемся да салдата. Прыглядаемся, бачым яго скуласты твар і касыя вочы. Хтосьці кажа, што гэта ўзбек, нехта іншы — што мангол. Другія гавораць, што ён напэўна татарын. Гімнасцёрка салдата ўсё мацней пакрываецца крывёю, а ў яго заціснутых далонях тырчыць лісцё ліпы.

Усім нам сумна. Гаворым, што мы разявы, што трэба было нам убачыць салдата раней, чым пабачылі яго немцы, і паказаць яму дарогу ў лес, да якога ад Бандароў усяго паўкіламетра.

— Каб дабраўся да лесу, — гаворыць Лёнік Хлябіч, — то пасідзеў бы там дзень-два і дачакаў бы саветаў, бо яны ж хутка вернуцца, і пагнаў бы немцаў назад.

**Алесь Барскі**

## КАЎНАС — — БЕЛАСТОК

Супрацоўніцтва паміж паштавікамі літоўскага Каўнаса і польскага Беластока пачалося ў 1985 годзе. Ездзяць у адпачынак і дзеці паштавікоў — літоўскія да нас, і нашы на Літву, у летнія піянерскія лагеры.

У сямідзесятую гадавіну Кастрычніцкай Рэвалюцыі наведалі нас: Вітаўтас Юшка, начальнік Галоўнай пошты Каўнаса, Эленія Баканаўскене, кіраўнік кальпартажу, і Юрый Андрушкоў, сакратар партыйнай арганізацыі. Госці прынялі ўдзел у святочнай акадэміі. З дакладам выступіў Уладзімір Прахарук, намеснік дырэктара Ваяводскай паштовай управы ў Беластоку і адначасова старшыня гуртка Таварыства польска-савецкай дружбы. Выступілі і нашы літоўскія госці, якіх усе выслухалі з вялікай увагаю.

Дырэктар — Эдвард Марцінчык уручыў букеты кветак і падарункі былым салдатам Савецкай арміі, дыпломы прызнання за добрую работу, за грамадска-палітычную актыўнасць. Сакратар партыйнай арганізацыі Ян Кавальчук уручыў юбілейныя пісьмы заслужаным членам партыі.

Затым адбылася цёплая, таварыская сустрэча.

У першай дэкадзе лістапада, на святкаванні сямідзесятай гадавіны Кастрычніцкай Рэвалюцыі выехалі ў Каўнас нашы паштары на чале з Эдвардам Марцінчыкам, Янам Кавальчуком, Бажэнай Пяхоўскай — старшынёю прафсаюзнай арганізацыі. Абмеркаваны там планы супрацоўніцтва на бліжэйшыя гады.

**В. Брацкі**




Рэйсавы самалёт з Варшавы ў Лондан ляціць дзве гадзіны і дваццаць хвілін. Білет каштуе больш трыццаці пяці тысяч злотых, да якіх трэба дадаць дзесяць тысяч платы за брытанскую візу і дзве тысячы за пашпарт. Усе месцы заняты (стаячых, вядома, няма). Лёт нагадвае язду камфартабельным аўтобусам па аўтастрадзе, на якой дзіркі акуратна заасфальтаваны. На вышыні дзесяці кіламетраў свеціць сонца; далёка ўнізе покрыва хмараў прыводзіць на думку снежны стэп з завеянымі курганамі. Восьмага лістапада зямлі не было відаць, ад чаго ўражанне, што стаім як бы на месцы (бракуе арыенціраў). Сцюардэсы падаюць сняданак, які ўлічаны ў цану дарогі. Пасля — прапануюць яны алкаголь, але ўжо за валюту. Па тым, хто заказвае сабе чарку або і дзве, можна пазнаць чужаземца (тубыльцы, калі каторы і мае трохі долараў, не аддасць іх на гарэлку ці каньяк). Чужаземцаў на пальцах дзвюх рук злічыць.

Ляцяць людкове на Захад, каб зарабіць, хоць ніхто не прызнаецца да гэтага, просячы візу ў брытанскім пасольстве ў Варшаве. Роспыты, чаго ты прыехаў у Англію, паўторацца ў лонданскім аэрапорце Гітраў. Іміграцыйны ўраднік з кожным гаворыць асобна, асабліва цікавячыся тваім маёмасным становішчам і бытам у Польшчы. Калі западозрыць ён цябе ў беднасці, адразу здагадваецца, што ты пабяжыш шукаць тут работы сабе, а яе замала і самім англічанам; зробішся канкурэнтам для іх, гатоўлівым рабіць нелегальна і за сабачы грош. Нягледзячы на візу, не пусцяць цябе, павернуць назад у Варшаву (бліжэйшым самалётам). Падвойнае рэшата.

Пакуль што мы над Даніяй, затым — над паўночнаямецкімі партамі, прастуючы на Амстэрдам і канал Ла Манш. Гляджу на маўклівыя твары польскіх землякоў і магу забажыцца, што думка ў іх адна: што нагаварыць таму ўрадніку, гэтаму „імігрэйшн офіс"? Трохі памагае прыкінуцца перад ім не разумеючым англійскай мовы, бо хто ж з бізнесу захоча паціху звязацца і выкарыстаць у Лондане такога непісьменнага немака, які не ведае нават, як „добры дзень" сказаць...

Апошні раз быў я ў Англіі шэсць гадоў таму назад. З перспектывы часу лепей кідаецца ў вочы ўсё тое, што змянілася ў тутэйшым жыцці.

Лондан, адзін з самых вялікіх гарадоў свету, у нечым падобны на гіганцкае мястэчка з нізкаю забудовай на дзесяткі міляў. Аднасямейныя — фамільныя — дамы з малюсенечкімі агародчыкамі, мураваныя — пераважна — „на адзін капыл".

Ідзеш вуліцаю і, каб не іншая назва яе, падумаў бы, што ўсё на той жа... Манатонія архітэктуры. Аднак, у параўнанні з нейкай бункернай шэрасцю нашых асабнякоў, лонданскія перыферыі здаюцца надзвычай колернымі, маляўнічымі (у іх добрыя фарбы і саліднае выкананне). З'явілася нядбайнасць, засмечанасць тратуараў ды падворышчаў, чаго раней не прыкмячалася. Віну за гэта валяць лонданцы на навалач з даўніх калоній ліквідаванай імперыі, неахайнасць афрыканцаў і азіятаў. Сапраўды, сталіца пераўтвараецца ў метраполію з насельніцтвам з усяго свету. Яго асіміляцыя ды культурнае раўнанне — гэта няхуткі працэс. На паўночналонданскай вуліцы Голдэн-род, дзе я жыў, шмат індусаў, малаяў, неграў, латыносаў. У супермаркеце Сэнсберы, у які хаджу купляць, касіршамі працуюць індускі і неграцянкі, сярод кіраўніцкага персаналу сям-там англічане або англізаваныя еўрапейцы (як і ў нас, амаль выключна жанчыны).

Змяшанне расаў узмацнілася ў васьмідзесятыя гады. Сегрэгацыя ды ўсякі відочны праслед забаронены. У блізкай школе класы, у якіх дамінуюць дзеці і ўнукі некалі каланіяльных народаў. Інстынкт расізму ў англічан часткова застаўся, але яны хаваюць яго, крыху як быццам саромеючыся... — Негру маральна болей дазволена ў нас, бо ён прадстаўнік эксплуатаваных намі ды ніштожанага вякамі кантынента, дык няхай хоць цяпер пажыве ён па-людску, — тлумачылі некаторыя.

Самаіронія — яшчэ адна рыса народаў з грунтоўным пачуццём уласнае вартасці і мацаты. Ангельцу можна сказаць прыкрую праўду пра яго дзяржаву і яе гісторыю, акрамя аднаго: нельга абражаць жартам каралеву Вялікабрытаніі! Але, разам з тым, англічанін даволі выразна здзівіцца, калі даведаецца, што ёсць людзі, якія не разумеюць яго мовы: як жа так — увесь свет па-англійску размаўляе!? Гэта комплекс магутных нацый, сутыкнешся з ім на Захадзе і на Усходзе.

Жыць стала цяжэй. Цэны ніколі і нідзе не меншаюць, але і заробкі таксама. Знаёмы кажа: пасля вайны давалі за тыдзень работы пяць фунтаў-стэрлінгаў і было цалкам добра (выплаты тут штотыдзень). За сорак гадоў грошы ўпалі больш-менш у дваццаць разоў, аднак, рэальна беручы, жывецца беспараўнальна лепей. Закон новых тэхналагічных эпох і новых перспектыў для чалавека. І ў Англіі свой крызіс, як і ўсюды, і таму цяпер цяжэй у ёй, але ў параўнанні з сямідзесятымі гадамі. Як і ў нас. А саракавыя гады для іх — гэта як для нас даваенныя або і царскія. Яны апераджаюць нас мінімум на адно стагоддзе і, відаць, надоўга.

(Працяг будзе)

# ПРЫСУТНАСЦЬ

студэнцкая старонка

Не так шчасліва, як усе мы ўяўлялі, развіталіся са старым годам, але ўсё ж перад намі будучыня. У Новым 1988 годзе ўсім нам: верным чытачам „Прысутнасці“, нашым прыхільнікам, а таксама і непрыхільнікам жадаем, каб іх мары былі як мага больш нерэальныя і як мага больш збывальныя. Хай жыве anno domini 1988!




Наглядаючы за жыццём краіны ў апошнім часе, мы пабачылі, якую велізарную ролю адыгрываюць усякага роду рэкламы ў радыё ці тэлебачанні. Каб не плесціся ў хвасце, рэдакцыя рашыла з нагоды набліжаючых традыцыйных вучнёўскіх баляў, так званых стаднёвак, запрапанаваць усім дзяўчатам:

## ХЛОПЦА НА СТАДНЁЎКУ

Хлопец такі, калі хоча гуляць у бельскім ліцэі, павінен адпавядаць прынамсі аднаму з наступных варункаў:

а) вучань тае самае школы апошніх класаў, у крайнім выпадку — трэцяга.

б) алімпіец гэтага ліцэя

в) абсальвент

г) жаўнер або міліцыянер (добра бачаная прыналежнасць да арганізацыі ТППР, ЗСМП, не абавязкова член БГКТ)

д) брат.

Запрашаючая дзяўчына павінна на паўгода раней прадставіць дырэкцыі і адказным настаўнікам — класным выхаваўцам поўную біяграфію запрошанай асобы. Уключна з пасведчаннем вышэйшай установы, у якой вучыцца, прадпрыемства, дзе працуе, грамадска-палітычных арганізацый і палітычна-дзяржаўных устаноў.

### ПАДАЕМ УЗОР СТАНОЎЧАЙ КАНДЫДАТУРЫ, ЯКАЯ НАПЭЎНА ПРОЙДЗЕ

(глядзі фота)

Багдан Сіманенка — сын Валянціна (падпалкоўніка пажарнай аховы). Вышэй успомнены нарадзіўся 4.IV.1965 г. у Бельску-Падляшскім, дзе і зараз пражывае. Паступіў у прадшколле ў 1971, якое закончыў экстэрністычным экзаменам. Далейшую адукацыю правёў у пачатковай школе № 3. Затым паступіў у паўсюдна вядомы гэтак званы беларускі ліцэй. Пасля атрымання атэстата сталасці стаў студэнтам філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку па факультэце тэхнічнага выхавання, дзе вучыцца і цяпер.

**Дасягненні.** Яшчэ ў тройцы быў удзельнікам школьных конкурсаў у кірунку фізікі, пажарнай аховы. У сярэдняй школе прымаў удзел у II этапе ваяводскай алімпіяды па фізіцы. На жаль, зайздрасць і недабразычлівасць камісіі не дазволілі нашаму маладому фізіку змагацца на цэнтральным і міжнародным узроўні.

**Спартыўныя дасягненні.** II месца ў першых адкрытых гарадскіх спаборніцтвах па спартыўнаму брыджу, у Беластоку супольна з Яраславам Зайкоўскім, таксама абсальвентам.

**Арганізацыйная прыналежнасць.** Яшчэ ў ліцэі уступіў у рады востра крытыкаванага ворагамі сацыялістычнага ладу, перажываючага ўнутраны крызіс ЗСМП. У часе студэнцтва актыўна ўключыўся ў ЗСП (Згуртаванне польскіх студэнтаў), дзе даў сваю падтрымку маладой арганізацыі. Належыць таксама і да БГКТ.

Вось больш-менш такім павінен быць хлопец на стаднёўку.

### АДМОЎНЫ ЎЗОР

Каб дзяўчаткі не памыліліся ў выбары, падаем і адмоўны ўзор.

Багдан Сіманенка — сын падпалкоўніка. Нарадзіўся 4.IV. 1965 г. У прадшколле трапіў са спазненнем па „аб'ектыўных прычынах“. З комплексам прабытай хваробы, ледзь быў прыняты ў тройку. Праславіўся там шматлікімі бойкамі, бракам пашаны да настаўнікаў і жанчын. Часта непрысутны на занятках, а ўсё-такі, на жаль, як успамінае, яшчэ пачаў вывучаць беларускую мову. Ліцэй быў для яго самым лепшым часам. Спакойна курыў у туалетах, рабіў многа прыемных рэчаў, аб якіх цяпер можа толькі расказваць з таямнічай усмешкай. Да сённяшняга дня вядомы яшчэ ў студэнцкім асяроддзі як доктар, „які на ўсе хваробы мае толькі адно лякарства...“.

Запрашаючым дзяўчатам раім узяць пад увагу як станоўчыя, так і адмоўныя бакі выбранага кандыдата.



## БЕЛАРУСІКІ


Jarosz M. G., Janka Kupała i biełaruskaja paezja, Mińsk 1971. Rec. Stochel Włodzimierz, *Slavia Orientalis* 1974, nr 2, s. 269—271.

Jarosz M. R., Piasniar rodnaj ziamli. Życcio i tworczaść J. Kupały, Mińsk 1982. Rec. Stochel Włodzimierz, *Slavia Orientalis* 1983, nr 4, s. 534—536.

Jasińska-Socha T., Archaizmy i innowacje dialektyczne w systemie fleksyjnym zabytków starobiałoruskich, *Acta Baltico-Slavica* t. 10, 1976, s. 291—301, mapa.

Jasińska-Socha T., Formy fleksyjne starobiałoruskich zabytków II połowy XVI wieku, *Biuletyn Slawistyczny* R. 1, 1976, s. 120.

Jasińska-Socha Teresa, Zaimek 3 osobowy w zabytkach starobiałoruskich XVI wieku a stan we współczesnym języku białoruskim, *Slavia Orientalis* 1976, nr 4, s. 509—512.

Jasińska-Socha T., Jeszcze o starobiałoruskim gen. ag. sudja, *Slavia Orientalis* 1977, nr 2, s. 235—236.

Jasińska-Socha T., O zapożyczeniach innosłowiańskich w staro-białoruskim systemie gramatycznym, *Studia z Filologii Rosyjskiej i Słowiańskiej* t. 3, 1979, s. 29—36.

Jasińska-Socha T., System fleksyjny starobiałoruskich zabytków II połowy XVII wieku (Opowieść o Tristanie, opowieść o Bowie), Wrocław 1979.

Jasińska-Socha T., Skrypt do zajęć praktycznych z języka białoruskiego (Dla studentów I i II roku), Warszawa, UW, 1981.

Jaśkin I. Ja, Belaruskija heahrafičnyja nazwy. Tapahrafija — Hidranimija, Mińsk, 1971. Rec. Łapicz Czesław, *Slavia Orientalis* R. 21, 1972, nr 4, s. 462—465; Sielicki Franciszek, *Slavia Orientalis* R. 23, 1974, nr 1, s. 134—135.

Jaworski K(azimierz) A(ndrzej), Z poezji białoruskiej (Antologia), *Życie Literackie* 1967, nr 45, s. 12.

Jaworski Kazimierz Andrzej, Poezja białoruska (Antologia), *Kamena* 1971, nr 9, s. 4, il.

Jaworski Kazimierz A(ndrzej), Poezja białoruska (Antologia), *Kamena* 1971, nr 20, s. 3.

Jaworski Kazimierz Andrzej, Poezja białoruska w przekładach. *Poglądy* 1971, nr 1, s. 15, il.

Ja ze spalonej wsi... Swiadectwa ocalonych. Oprac. Aleś Adamowicz, Janka Bryl, Uładzimir Kaleśnik, Warszawa 1978. Rec. Gerber Krystyna, *WTK* 1978, nr 40, s. 9; Lewandowski Jan, *Kierunki* 1978, nr 38, s. 8, il.; Żukrowski Wojciech, *Nowe Książki* 1978, nr 15, s. 43—44; Goldbergowa Krystyna, *Kontrasty* 1978, nr 11, s. 44—45; Olczak Janusz, *Nadodrze* 1979, nr 8, s. 11.

Jelonek Adam, O niektórych problemach struktury płci i wieku ludności Białoruskiej Socjalistycznej Republiki Radzieckiej, *Zeszyty Naukowe Uniwersytetu Jagiellońskiego* nr 480, Prace Geograficzne, 1977, z. 44, s. 105—111, rys. tab. wykr. Sum.

(J. G.), Białoruska optymalizacja receptur paszowych. *Przegląd Zbożowo-Młynarski* 1973, nr 7, s. 30—31, il.

Jermolenko W., Kompleksowe przystosowanie do uprawy ziem białoruskiej części Polesia, tł., *Międzynarodowe Czasopismo Rolnicze* 1980, nr 4, s. 89—91.

Jesionowska Wanda, Mińsk, Teatr prawdę ci powie (Teatr im. Janki Kupały). *Trybuna Ludu* 1984, nr 30, s. 5.

Juchniewicz Mieczysław, O działalności partyzanckiej Mikołaja Kunickiego „Muchy" na Ukrainie i Białorusi. *Wojskowy Przegląd Historyczny* 1973, nr 4, s. 414—415.

Juchniewicz Mieczysław, Międzynarodowa sesja naukowa poświęcona stosunkom polsko-białoruskim i litewskim w ostatnim 50-leciu, *Wojskowy Przegląd Historyczny* 1968, nr 4, s. 329—331.

Juchniewicz Mieczysław, Jurgielewicz Wacław, Polsko-radziecka sesja naukowa w Mińsku 9—11.VII.1969 r., *Wojskowy Przegląd Historyczny* 1969, nr 3/4, s. 584—587.


P.C.

## ПОБАЧ З КУПАЛАМ

Гісторыю гэту пачуў я дзякуючы п. Руце Сакоўскай, у сучасны момант, жыхарцы Варшавы. Яе маці Паліна Сакава ведала асабіста Янку Купалу яшчэ ў той час, калі малады Ясь ставіў свае першыя крокі на ніве літаратуры. Сёння Паліне Сакавай 94 гады і ёй ужо цяжка размаўляць, таму гісторыю сустрэчы з Купалам пераказала мне яе дачка, якая добра яе ведае, бо памяць пра гэта рупліва захоўваецца ў сямейных традыцыях.

Паліна Сакава нарадзілася ў Вільні. Гады свайго дзяцінства правяла на прадмесці горада, дзе яе маці мела невялікую краму. Даволі рэдка здаралася, каб у мнагадзетных яўрэйскіх сем'ях пасылалі дзяўчат вучыцца ў свецкія школы, аднак Паліна закончыла рускую гімназію і, праўду сказаўшы, не вельмі хацелася ёй заставацца на прадмесці. Пабачыўшы аднаго разу аб'яву, што бібліятэка „Знание" (веды) патрабуе працаўніка, яна вырашыла неадкладна падацца туды. На жаль для яе, аказалася, што бібліятэка прыняла ўжо на працу новага чалавека. Быў гэта малады шляхцюк з правінцыі Ян Луцэвіч. Тут трэба некалькі слоў сказаць пра бібліятэку і яе ўладальніка. Бібліятэка „Веды" была прыватнай уласнасцю Барыса Даніловіча. Установа мела агульнадаступны характар і, у асноўным, былі тут рускія кнігі. Сам Даніловіч быў беларусам, актыўным грамадскім і культурным дзеячом. Удзельнічаў у арганізацыі ў Вільні беларускіх выдавецтваў. 15 снежня 1908 г. віленскі натарыус зацвердзіў умову беларускага выдавецкага таварыства „Наша хата". У склад суполкі ўвайшлі В. Бонч-Асмалоўскі, А. Уласаў, І. Луцкевіч, І. Маньковскі, К. Цэтэрман і Б. Даніловіч. Галоўная кантора выдавецтва знаходзілася не дзе інш, як пры бібліятэцы „Веды". Даніловіч, відаць быў адным з галоўных ініцыятараў стварэння суполкі. На першым арганізацыйным сходзе якраз яму і Маньковскаму было даручана загадваць справамі суполкі.



Паліна Сакава ў бібліятэцы Даніловіча.

У 4 нумары „Нашай нівы" за 1909 г. паведамлялася, што „Таварыства ўстанаўліваецца для таго, каб друкаваць і шырыць памеж людзёў кнігі, брашуры, сценныя лісты і ўсялякія выданні (газеты і г.д.) у беларускай мове, а таксама працы аб беларусчыне ў другіх мовах".

Агулам суполка выдала 6 кніг агульным тыражом 15 тысяч экземпляраў, удзельнічала таксама ў выданні „Другога чытання" Якуба Коласа (інфармацыі з кнігі: С. Александровіч, Пуцявіны роднага слова, Мінск, 1971, с. 146). Нейкі час быў Даніловіч старшынёй праўлення Беларускага музычна-драматычнага гуртка, які працаваў у Вільні ў гадах 1911-16. Намеснікам старшыні быў В. Ластоўскі, а яго членамі, між іншымі, Бурбіс, Цётка, Бядуля. Гурток ладзіў музычныя вечарынкі. Пастаўлена ім было некалькі п'ес (Ажэшкі, Марцінкевіча, Чэхава), сіламі гуртка ўпершыню была пастаўлена „Паўлінка" Янкі Купалы. Бібліятэка была адным з цэнтраў беларускага жыцця ў тадышняй Вільні. Добрымі знаёмымі Даніловіча былі браты Луцкевічы. У бібліятэцы, напрыклад, маці маладзенькага тады гімназіста Браніслава Тарашкевіча пакідала прывезеныя з вёскі харчы.

А малады шляхцюк гэта не хто іншы, як наш вялікі паэт Янка Купала. Упершыню прыехаў ён у Вільню ў верасні 1908 г. і зараз жа пачаў працу ў бібліятэцы „Веды", якая знаходзілася тады ў доме № 4 на Георгіеўскім праспекце. Купала быў ужо тады вядомым у беларускім асяроддзі паэтам. Вясной 1908 г. у Пецярбурзе быў надрукаваны першы яго зборнік „Жалейка". У Вільню прыехаў на запрашэнне рэдактараў „Нашай нівы" і, відаць, дзякуючы іх знаёмству з Даніловічам атрымаў пасаду бібліятэкара. І вось пазнаёмілася з Купалам Паліна Сакава, бо маладая, амбітная і прыгожая дзяўчына ўсё ж такі дабілася, каб прынялі і яе. Асаблівага сяброўства паміж імі не было. Паліна старалася як магла лепш выконваць свае абавязкі. Затое наш паэт час працы выкарыстоўваў пераважна як дасканалую нагоду, каб азна-

## ЗВЫЧАЙНЫ ЛЁС ЦІХАНА МІРАНЮКА

(Працяг са стар. 1)

для нашых вёсак, стаіць шчытом да вуліцы, уваход цераз сені на кухню, а з кухні — у спальню і чысты пакой. У хаце чыста, упарадкавана, відаць дбайная рука гаспадыні. На кухні ля вакна стаіць халадзільнік, на ім — шырокаэкранны тэлевізар, а побач, на стале — радыёпрыёмнік, сцены абліцаваны каляровымі плітамі пад узор керамічнай пліткі. Адным словам, у гэтай хаце больш думаюць аб жыцці, чым аб смерці.

— Зараз ён прыдзе, — вярнуўшыся з панадворка і перамагаючы паскоранае дыханне, апавясціла мне цётка Марыя. — Вось бачыце, дух ужо займае, цяжка дыхаць.

З выгляду, аднак, я б не даў ёй больш 75 гадоў. Вярнуўся з панадворка дзядзька Ціхан. Ён таксама на выгляд шмат маладзейшы, чым паказваюць ягоныя дакументы.

— Мы тут адны са старухай засталіся, — апраўдваецца дзядзька Ціхан. — А пакуль чалавек жывы, дык і занятак заўжды знойдзецца...

— Дзеці пайшлі сваімі дарогамі...

— А многа іх у вас? — перапыніў я цётку Марыю.

— Трое засталося ў жывых, — ахвотна паясніла яна. — Адзін сын у Гданьску, служыць кадравым афіцэрам у войску, другі, гэты Ян, што вам пісьмо пісаў, абсталяваўся ў Беластоку, на мясакамбінаце працуе, а дачка — тут, у Белках замужам, за солтысам. І так мы адны засталіся, — уздыхнула яна.

— І што, шкадуеце, што так сталася? — пацікавіўся я.

— А чаго ж тут шкадаваць! — запярэчыў дзядзька Ціхан. — Яны ж не ў астрогу і не на катарзе, а кожнае з іх жыве, быццам паны колішнія жылі. Маюць працу, маюць кватэры, дзяцей павучылі... За тое ж я і зма-



92-гадовы Ціхан Міранюк з Белак са сваёй жонкай.

# У ГАРАДОЦКАЙ ГМІНЕ (1)

У гмінах асноўным дзейнічае Саюз сялянскай моладзі. У пачатку васьмідзесятых гадоў пачалі дзяліць справы моладзі на вясковыя і гарадскія, на сельскагаспадарчыя і завадскія. Да гэтага часу была адзіная маладзёжная арганізацыя — Саюз сацыялістычнай польскай моладзі (ЗСМП). І яна далей існуе, але з-пад яе ведамства выключылі вясковыя гурткі. У Гарадку аднак не наступіў такі падзел. Тут дзейнічаў паспяхова і далей дзейнічае Саюз сацыялістычнай польскай моладзі і на вёсках, і на прадпрыемствах. Налічвалася ў ім у канцы 1987 года 427 чалавек, аб'яднаных у 20 гуртках (17 вясковых і 3 у цэнтры гміны — Гарадку). Праўда, лікавы арганізацыйны стан нестабільны, няспынна змяншаецца ён у вясковых гуртках.

Вось, напрыклад, у Свіслачанах 2 гады таму назад гурток ССПМ складаўся з 13 членаў. Цяпер у ім толькі 5 чалавек, ды і тыя ўжо мала займаюцца сельскай гаспадаркай, таму што працуюць на прадпрыемствах Беластока і, калі атрымаюць там памяшканні, будуць у Свіслачанах толькі госцьмі.

Гурток ССПМ у Пярэйме (Сафіполі) у 1985 годзе налічваў 14 членаў. Цяпер у ім толькі дзве асобы, і гурток завешаны ў дзейнасці. 12 чалавек пакінулі вёску.

У вёсцы Коматаўцы, дзе засталося на гаспадарцы трое маладзейшых людзей, ССПМ у асноўным складаецца з моладзі, якая даязджае на працу ў Беласток і Гарадок, а таксама ў суседні сельскагаспадарчы кааператыў у Лужанах. Моладзь гэта звязана моцна з вёскаю. Разам з членамі добраахвотнай пажарнай каманды яна адрамантавала пашкольны будынак (у вёсцы некалькі школьнікаў), які добра служыць як раміза і як святліца для жыхароў вёскі.

Гурток ССПМ у Скрабляках разам з партыйнай арганізацыяй ў апошні час шмат працаваў пры рамонце пашкольнага будынка (таксама некалькі школьнікаў) на святліцу і пры наладжванні мясцовай дарогі.

У Вейках гурток ССПМ з'яўляецца адным з найбольшых у гміне. На сходах абмяркоўваюцца там хвалюючыя справы вёскі. Разам з аднавяскоўцамі гурток пабудаваў святліцу. У гуртку налічваецца 16 асоб. У 1983 годзе ў гуртку было 36 юнакоў і дзяўчат. За гэты час 20 асоб выехала з вёскі жыць і працаваць у Беласток і Гарадок.

Чаму тут такая вялікая міграцыя моладзі ў гарады? На гэтае пытанне адказаў мне старшыня гміннага праўлення ССПМ Яўген Кардаш. Ён сам з'яўляецца штатным працаўніком маладзёжнай арганізацыі і адначасова працуе на гаспадарцы, раней з бацькамі ў Вейках, а цяпер — з жонкай і цёшчай у Гарадку.

— Калі няма салідпай бацькоўскай спадчыны, дык маладым людзям пачаць працу на гаспадарцы проста немагчыма. Страшэнна высокія цэны на сельскагаспадарчыя машыны і прылады, высокія абавязковыя аплаты ПЗУ асабліва за кароў, высокія цэны на хімічныя сродкі і мінеральныя ўгнаенні, якіх заўсёды не хапае, і высокія аплаты на будучую пенсію. Усё гэта адстрашвае моладзь ад цяжкой працы на гаспадарцы.

Па думцы Яўгена Кардаша, аплаты ПЗУ павінны быць добраахвотныя. Тады сяляне будуць страхаваць пры высокіх аплатах найбольш каштоўную жывёлу, пераважна высокамалочных кароў. Ды і сродкі прадукцыі каб не даражэлі.

Апрача таго, моладзь хоча працаваць, але і адначасова бавіцца, танцаваць, спяваць, кахаць, жаніцца, бываць на праекцыях відэо. **На вёсцы з гэтым цяжка.** Моладзі, якая працуе на прадпрыемствах, жывецца лягчэй і культурней. Вось, напрыклад, ССМП у „Каро" у Гарадку, у якім налічваецца 42 асобы. Гурток запланаваў стварыць музычны калектыў, і для яго ўжо прадпрыемства закупляе музычныя інструменты. Моладзь з прадпрыемства мае водпуск, можа паехаць куды хоча, дзень працы на прадпрыемстве не ад усходу да захаду сонца ў сезонах палявых і жніўных работ, а толькі 8 гадзін. Ды справа найважнейшая: на вёсках зусім няма дзяўчат, няма з кім танцаваць і з кім жаніцца. А адзін нічога не зробіш на гаспадарцы. „Адзін у полі не воін", — як праўдзіва сцвярджае пагаворка.

На вёсцы наракаюць, што няма стабільнай сельскагаспадарчай палітыкі. Невядома, чым займацца: свінагадоўляй ці авечкагадоўляй, гадоўляй малочнага быдла ці вырошчваннем жыта, ці бульбы. У гэтым годзе найбольшыя даходы мае той, хто пасадзіў многа бульбы. Бульба дала лепшы даход, чым адкорм свіней. Нестабільнасць цэн вельмі перашкаджае спецыялістычным гаспадаркам.

Маладых людзей, якіх асталося на вёсках нямнога, моцна непакоіць другі этап гаспадарчай рэформы. Ён, праўдападобна, не прынясе ніякіх ільгот сялянам у тых гмінах, дзе зямельныя ўгоддзі нізкай якасці. Калі ў другім этапе рэформы яшчэ ўзрастуць усякія сялянскія аплаты, дык гэта толькі прыспешыць апусташэнне вёсак ад моладзі. Астануцца ў вёсках „Усходняй сцяны" толькі пенсіянеры, якім, шчыра кажучы, жывецца добра. Уся моладзь пойдзе працаваць у горад. І тады, здаецца, хлеб будзем есці відэльцам. Не будзе каму апрацоўваць зямлі, не будзе каму дастаўляць сельскагаспадарчыя прадукты.

Але такая сітуацыя Гарадоцкай гміне не пагражае. Аб гэтым будзе напісана ў наступнай публікацыі.

**Міхась Хмялеўскі**




## Я ЗГОДНЫ З ЛЯШЧЫНСКІМ

Калі я чытаў „Ніву" ад 20 снежня і артыкул Ю. Ляшчынскага „Заўвагі на часе", шмат думаў пра паводзіны нашых студэнтаў. Сумна зрабілася на душы ад напісанага Ляшчынскім. Сярод нашага студэнцтва трымаецца рэнегацтва і самадурства, гібеюць іх душы ад няведання ўласных карэнняў, нешанавання бацькаўшчыны. Робяцца выродкамі!

Духоўнае хамелеонства можна яшчэ неяк сцярпець у прасцякоў, людзей невялікага розуму. Але ж не ў студэнтаў, у нашых будучых інтэлігентаў. Вядома, што інтэлігенцыя — гэта соль нацыі. Слабая інтэлігенцыя, то і слабая нацыя.

Я зусім згодны з Ю. Ляшчынскім, з яго заўвагамі. Трэба так рабіць, як піша ён.

**Кастусь Сідаровіч,**
Беласток

(Працяг са стар. 1)




шыні аддзела Сяргей Крышань. Заданням аддзела прысвяціў сваё выступлене сакратар ГП Віталій Луба. Пленум аддзела пастанавіў падрыхтаваць справаздачна-выбарную канферэнцыю на 24 студзеня. Магчыма, што ўдасца арганізаваць выступленне харавога калектыву з Рыбалаў.

Варта адзначыць, што ў Сакольскім аддзеле БГКТ найхутчэй з усіх аддзелаў наблізілася да канца справаздачна-выбарная кампанія ў гуртках. Там ужо адноўлены праўленні і рэвізійныя камісіі гурткоў, а таксама выбраны дэлегаты на XI з'езд БГКТ.

**Міхась Хмялеўскі**

# ШЛЯХАМ ГАДОЎ

**Бойня паміж Кейстутавічамі і Альгердавічамі, якая давяла ў Вялікім княстве Літоўскім да падзелу грамадства — князёў, баяраў, мяшчан і нават сялянства — на два заядла ваюючыя паміж сабой лагеры, зніштажэнне Вітаўтавымі войскамі і яго крыжацкімі саюзнікамі значнага абшару дзяржавы і перш за ўсё смерць Карыгайлы і Нарымунта Альгердавічаў не магла не выклікаць трывогі і процідзеянняў з боку караля Ягайлы. Як адзначае „Хроніка літоўская і жамойцкая": „Уладзіслаў Ягайла, сабраўшы якое толькі змог войска, накіраваўся ў Літву (г.зн. Вялікае княства Літоўскае — М.Г.), каб пагадзіць літоўскіх і рускіх паноў, зламаць Вітаўтаву моц ды паўстрымаць націск прускіх і лівонскіх (інфлянцкіх) крыжакоў.**

Вядома, Вітаўт спадзяваўся даўно, што кароль Ягайла не будзе абыякава ўзірацца, як ён пры дапамозе крыжакоў будзе заваёўваць бацькаўшчыну Альгердавічаў. Таму Кейстутавіч амаль адразу пасля падпісання дагавору з Ордэнам пра сваё падданства яму і за парадай крыжацкіх начальнікаў наняў і накіраваў у крэпасці Панароўя і Пабужжа значную колькасць крыжакоў.




Чужынцы, уладкаваўшыся ў Камянцы, Суражы, Бельску, Дарагічыне, Бярэсці, Гародні і ў шэрагу іншых меншых крэпасцяў, заняліся не столькі ўзмацненнем іх ды аховай, колькі кінуліся рабаваць „навакольныя воласці" ды „частымі нападамі Польшчу, Мазоўша і Літву" пустошыць. Перш за ўсё рыцары з кнехтамі сталі лавіць і вязаць у нявольнічыя путы юнакоў і дзяўчат ды дзесяткамі гнаць іх у Прусію. Адтуль адных — часцей за ўсё самых моцных хлопцаў — перадавалі ў парабкі ў крыжацкія маёнткі або адсылалі ў свае радовыя маёмасці ў Нямеччыне, Англіі, Францыі. Другіх жа — пераважна прыгожых дзяўчат — вялі ў Гданьск або Кенігсберг і там грузілі ў караблі, каб адправіць на продаж на нявольнічых торгах Іспаніі, Паўночнай Афрыкі ці Малой Азіі. Не грэбавалі рыцары таксама чужым дабыткам — у Прусію пацягнуліся табуны нарабаваных коней, быдла, авечак, павалакліся абозы з нахапаным хатнім дабром, скурамі, мёдам, воскам, рамесніцкімі вырабамі. Наколькі зніштажальнай для зямель Вялікага княства Літоўскага і перш за ўсё яго заходніх зямель — Панёмання, Панароўя і Сярэдняга Пабужжа — была крыжацкая дапамога, дасканала ўсведамляў і сам Вітаўт, калі храніст заўважыў, што Кейстутавіч „наракаў на сваё няшчасце, што крыжакі не пра яго, але пра сваё дабро ў ваяванні дбаюць".

Таму, як падае тая ж „Хроніка": „Кароль Ягайла перш за ўсё падышоў пад крэпасці, у якіх Вітаўт пасадзіў немцаў". Была зіма. Ягайла на чале значнай арміі, у якой ядро складала яго дзевяцісотасабовая дружына беларускіх коннікаў, накіраваўся з Любліна на Бярэсце. Па лёдзе, мабыць (бо хронікі маўчаць пра якую-небудзь пераправу лодкамі або плытамі), Ягайлава войска перапраўілася цераз Буг і „аблажыла" берасцейскую крэпасць. Прамовы пра дабравольную здачу да нічога не давялі — берасцяне і крыжакі спадзяваліся на свае немалыя сілы і непрыступнасць умацаванняў — і каралеўскім воям давялося ісці прыступам на крапасныя сцены. Толькі дзесятага дня „праз штурм", як чытаем у „Хроніцы", Бярэсце было ўзята.

Не лягчэй прыйшлося і з Камянцом. Мабыць, асабліва заўзята бараніліся воі, засеўшыя ў славутай камянецкай вежы. „Хроніка" падае, што Ягайла Камянец „здабыў з вялікай цяжкасцю".

Затым Ягайлава армія рушыла на Горадню. Мяркуючы па сетцы тадышніх гасцінцаў, каралеўскія войскі ішлі ўсходняй ускраінай Беласточчыны — праз сённяшнюю Белавежу, Ялоўку, Гарадок, Крынкі — па дарозе

# „Лазня" Маякоўскага на беластоцкай сцэне

З пачаткам новага сезона восенню мінулага года, з прыходам новых сіл — у Драматычным тэатры імя Аляксандра Вянгеркі ў Беластоку наглядаецца значнае ажыўленне. Адной з несумненна вялікіх падзей, якія адбыліся ў снежні, з'яўляецца пастаноўка „Лазні" Уладзіміра Маякоўскага ў перакладзе Артура Сандаўэра.

Як вядома, ў пачатку трыццатых гадоў гэта п'еса вядомага паэта нарабіла ў Савецкім Саюзе шмат шуму. Як ацэньваў яе сам Маякоўскі? Ён гаварыў, што гэта „драма ў шасці актах з цыркам і феерверкам", якая проста „мые бюракратаў". Маякоўскі не ўкрываў, што п'еса гэта публіцыстычная і таму не выступаюць у ёй так званыя „жывыя людзі", а „ажыўленыя тэндэнцыі". „Лазняй" Маякоўскі поўнасцю пацвердзіў свой тэзіс аб сэнсе яго працы ў тэатры: зрабіць са сцэны трыбуну.



Зенон Якубец у ролі таварыша Чудакова, вынаходніка „машыны часу".

І зрабіў гэта! Як жа актуальна гучыць і сёння яго твор! А ў трыццатых жа гадах крытыка часта пісала, што ўсё гэта толькі крыклівая балбатня, што Маякоўскі насміхаецца з савецкай рэчаіснасці, у якой не ўмее заўважыць нікога, апрача бюракратаў, ігнарантаў і падхалімаў, і што ва ўсёй п'есе няма ніводнага героя, на якім „адпачыла б вока". Нават постаці рабочых, якія гавораць цяжкой мовай самога аўтара, незразумелы большасці. Ды і наогул, масавы глядач не разумее ўсю „Лазню". А зрэшты, чаму бюракратам не супрацьпастаўлена рабочая маса, партыя, прафсаюзы?

На гэтыя закіды Маякоўскі адказваў коратка: што менавіта напісаў ён гэту п'есу якраз з пункту гладжання рабочых і партыйных, якія сядзяць у глядзельнай зале.

Мінула амаль 60 год ад часу напісання „Лазні". Але калі мы глядзім сёння гэту п'есу, амаль немагчыма ўявіць сабе, што падзеі адбываюцца не цяпер. Калі б вось яшчэ не тадышняя мода...

Маякоўскі, найвялікшы паэт рэвалюцыі, паказаў тут новую рэчаіснасць без характэрнага для яго творчасці пафасу. Наадварот, ён з цэлай яскравасцю выявіў скрыўленні, якія выступалі пры пабудове новага жыцця, пры пераўтварэннях, якія прынесла з сабой рэвалюцыя.

Уладзімір Маякоўскі, ствараючы ў „Лазні" пры дапамозе вобраза вынаходніка Чудакова (Зенон Якубец) „машыну часу", якая можа пераносіць чалавека ў будучыню і назад, хацеў верыць, што паляціць гэта машына наперад сямімільнымі крокамі, беручы з сабою працоўны люд і адкідаючы, выплёўваючы бюракрата Пабеданосікава (Ежы Сех) і яму падобных. Не прадбачыў, аднак, што ўсё робіцца не так хутка і нават праз шэсцьдзесят год патрэбна будзе перабудова. А мо бачыў больш, чым нават нам здаецца...

На заканчэнне хацелася б павіншаваць кіраўніцтва тэатра з трапным выбарам п'есы і рэжысёра Януша Казлоўскага з надзвычай цікавай пастаноўкай „Лазні". Акцёрам таксама належыцца „брава"!

**Ада Чэчуга**

Фота А. Сакульскага




**Таварыш Пабеданосікаў (Ежы Сех) у гадзінах працы перашкаджаць сабе не дазваляе! На здымку ж відаць надта яскрава, што без выкліку ўваход забаронены. Аднак мадам Мезальянсавай (Ганна Раеўская) гэтыя забароны, як відаць, не датычацца.**

---

беручы меншыя крэпасці і садовячы ў іх сваіх людзей.

Пра далейшыя падзеі Ягайлава паходу няхай раскажа нам „Хроніка літоўская і жамойцкая", у якой захаваўся маляўнічы і падрабязны абраз бітвы за Горадню паміж Ягайлавай і Вітаўтавай арміямі.

Кароль Ягайла „пераправіўся цераз Нёман і расклаўся абозам пад Гародняй, аднак замка здабыць не змог. Тады голадам немцаў, быўшых у ім, задумаў вымарыць. Паспяшаліся яму з дапамогай каралёвы браты Скіргайла і Уладзімір... з немалым войскам, Карыбут-Дзмітрый з Ноўгарада-Северскага з некалькімі палкамі... прыехаў. З гэтым войскам кароль Ягайла Горадню з трох бакоў акружыў. Вітаўт жа, пачуўшы пра аблогу сваіх у Горадні, сабраў з прускіх крыжакоў немалое войска, гарадзенцам на дапамогу і адбой прыйшоў. Зараз жа над Нёманам, насупраць Замка, абозам размясціўся і новы замак на капцы будаваць загадаў. Аднак такім чынам нічога асаджаным не дапамог, бо Ніжні замак каралеўскія жаўнеры — на што сам Вітаўт з жалем глядзеў — здабылі. Тады Вітаўт спыніў пабудову новага замка, вялікі жалезны ланцуг да Высокага замка цераз Нёман працягнуў і загадаў прывязаць яго каля замкавай брамы. Затым, паўз ланцуг лодкі і віціны шэрагам ставячы, мост наладзіў, каб лягчэй абложаным даць дапамогу, слаў ім харчы, параненых і хворых да сябе забіраў, а свежых жаўнераў для абароны кіраваў. Гэтую Вітаўтаву хітрасць звочыўшы, каралёвыя жаўнеры ў версе Нёмана насеклі і нарубалі вялікіх і тоўстых сасновых бярвенняў, звязалі ў плыт ды пусцілі ўніз па вадзе і па ветры. Гэтак за ветрам і па быстрай вадзе плыт той раптоўна ў мост ударыў і, разарваўшы ланцуг, патапіў лодкі і віціны з людзьмі. Толькі ўсяго адзін немец на каралёў бераг выплыў. Вітаўт жа засумняваўся ў магчымасці абароны замка і павярнуў з войскам у Прусію. Такім чынам Горадня праз 50 дзён аблогі ў каралёвых руках апынулася."



Гарадзенскі замак у XVI ст. Паводле Т. Андрыячака. Малюнак У. Петрука.

У тым жа часе, калі Ягайла са сваёй арміяй па чарзе здабываў Бярэсце, Камянец, Гародню і меншыя крэпасці, яго саюзнік, князь чэрскі Януш, ударыў на Дарагічын, Мельнік, Сураж і іншыя меншыя крэпасці на сярэднім Пабужжы і Панароўі. Мабыць, з карысным для сябе вынікам, бо ў наступным 1391 годзе, кароль Ягайла дарye яму гэтыя гарады з прыналежнымі да іх землямі. Аднак, каб забяспечыць гэты незвычайна багаты набытак ад нечаканасці з боку Кейстутавічаў, Януш адразу прыступіў да пабудовы моцнай крэпасці ў сённяшняй Златорыі, дзе рэчка Супрасль упадае ў раку Нарву, пасадзіў ва ўсіх крэпасцях сваіх вояў і пачаў усімі сіламі ўмацоўваць іх.

Але ўсё гэта не суцішыла барацьбы Вітаўта з Альгердавічамі, а можа нават і завастрыла яе.

**Мікола Гайдук**

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# АДКУЛЬ ПРЫЙШОЎ ГЛІНЯНЫ ПЕЎНІК

Некалі ў дзяцінстве падарылі мне глінянага пеўніка. Ах, што гэта быў за пеўнік!.. Статны, яркахвосты, з пышным грабянцом. А як свістаў ён! Прыкладзеш да вуснаў — і адразу ліецца яркі, густавата-цёплы галасок. А пачнеш перабіраць пальцамі па дзвюх адтулінах збоку — голас пераломіцца, як быццам перабяжыць з берага на бераг, а то і зусім рассыплецца на дробныя падгалоскі.

Доўга я не ведаў, адкуль прыйшоў да мяне гліняны пеўнік. І вось аднойчы даведаўся. Хачу расказаць пра гэта і вам.

Неяк прыехаў я ў пушчанскі гарадок Івянец, што на беразе ракі Волма. Іду па вуліцах, прыглядаюся да акон. І на кожным бачу вазоны. А растуць яны ў прыгожых гліняных вазонніцах. Тут я і ўспомніў пра свайго глінянага пеўніка.

І яго, і тыя вазонніцы, аказваецца, стварылі адны і тыя ж людзі, івянецкія ганчары. І пайшоў я на тутэйшы завод мастацкай керамікі, дзе яны працуюць.

У прасторных цэхах кіславата пахла свежай глінай, павольна беглі стужкі канвеераў, моцна дыхалі цяплом электрапечы. Каля іх завіхалася многа людзей. Канвееры неслі да печаў яшчэ сырыя вазы, кубкі, сподкі. Але ўвесь сакрэт адкрыўся мне, калі зазірнуў у некалькі невялікіх пакояў, што былі тут, у цэху. Гэта рабочыя месцы вядомых усёй рэспублікі ганчароў Міхаіла Звярко, Антона Пракаповіча.

...Круціцца і круціцца ганчарны круг — невялікі станок з кружочкам наверсе. Міхаіл



Звярко бярэ ў руку камячок мяккай карычневай гліны, кладзе яго на круг — і вось ужо творыцца сапраўднае дзіва. Спрытныя рукі ганчара выраблюць самае неверагоднае. Камячок расце, выгібаецца, набывае форму. Вось ён пачынае звужацца ў гарлавінку, зверху зноў крыху расшыраецца. Здагадваешся, што гэта павінен быць гарлачык. Усё і сапраўды нагадвае дзіва, як быццам на вачах тваіх распускаецца незвычайная кветка.

І вось гарлачык гатовы. Майстар ставіць яго на паліцу і кладзе на круг новы камячок гліны. Галоўнае зроблена, але шлях гарлачыка яшчэ не завершаны. Яму трэба прайсці загартоўку ў печы. Потым яго пакрыюць глязурай і адправяць у печ другім кругам.

Бачыў я на фабрыцы самыя розныя вырабы: збанкі, міскі, вазы, гліняных баранчыкаў і птушак.

Нялёгкая праца ў ганчара. Цяпер круг верціць электрычны матор. А калісьці круцілі яго нагамі. І рабілі яны за дзень столькі рухаў, што, калі б перавесці іх у крокі, атрымалася б адлегласць у семдзесят кіламетраў. Гэта — шлях ад Івянца да Мінска.

Круціцца ганчарны круг. Вырастае ў руках майстра гарлачык.

А вось каб стварыць глінянага пеўніка, ганчар карыстаецца спецыяльнымі палачкамі. Гэта — горлышка, шыпуль, трасціна. Нараджэння яго бачыць не давялося, але наведаў ганчароў, і мне здалося, што я пабываў у дзяцінстве і сустрэў свайго глінянага пеўніка.

**Казімір Камейша**

## Пішуць школьнікі

### ДАРАГАЯ „ЗОРАЧКА"!

*Прачыталі мы артыкул „З настаўнікамі за рэдакцыйным сталом" і прыйшла нам у галаву такая рэфлексія. Адзін з настаўнікаў — са школы ў Пашкоўшчыне — на сходзе ў рэдакцыі „Нівы" прапануе рабіць абмен школьнымі выступленнямі. Хочам сказаць, што наша школа ўжо гэта робіць, хаця гурток беларускай мовы працуе толькі ад гэтага школьнага года.*

*Мы былі з нашымі выступленнямі ў школе ў Тыневічах і ў Крыўцы. Калі ўжо пры гэтым, дык мы раскажам вам пра пабыўку ў школе ў Крыўцы.*

*Было гэта 18 лістапада 1987 года. Чатырнаццаць вучняў з настаўніцай Нінай Абрамюк наведалі гэтую школу. У нашай праграме былі п'есы „Пасля ўрокаў", „Першыя крокі самастойнасці", сцэнка „А ў вас", песні і вершы, якія напісалі нашыя вучні. Канферанс'ерам была Ірэна Занкевіч.*

*Нашае выступленне распачалося песняй „Люблю наш край". Потым заспявалі „Беласточчыну", „Купалінку", а Эва Нікалаюк і Эля Нестэрук — „Алесю" і „А ў полі вярба". У выкананні Асі Кандрацюк прагучэла песня „Гайнаўшчына". Вершы дэкламавалі Аля Гайдук, Ася Кандрацюк, Ася Коўнер і Ася Філіповіч. Праграму закончылі песняй „Мой край беларускі".*

*Нас сардэчна прынялі гаспадары школы ў асобах: Сільвестар Мінскі — дырэктар школы, Надзя Міхальчук — настаўніца беларускай мовы і настаўнік Міхал Зубрыцкі.*

*Дахаты вярнуліся вясёлыя, хаця неласкавы шафёр аўтобуса нас не забраў, прыйшлі пехатой. Міла ўспамінаем пабыўку ў Крыўцы.*

**Вучні 7 класа**
**Пачатковай школы ў Ласінцы.**

### ДАРАГАЯ „ЗОРКА"!

*Мы вучні VII б класа Пачатковай школы ў Орлі ўсе вывучаем беларускую мову. Пастаянна чытаем „Ніву" і „Зорку". Найбольш цікавіць нас „Вясёлы куточак", „Ніўка", „Беларускі фальклор", а таксама казкі, якія друкуюцца ў „Зорцы". Дзяўчаты з нашага класа займаюцца ў гуртку беларускай мовы. На Дзень настаўніка падрыхтавалі сцэнку „Нечакана", якая ўсім спадабалася.*

*Беларускай мове вучыць нас пані Анна Шыманская, якую мы вельмі любім. Яна арганізуе нам сустрэчы з беларускімі паэтамі і пісьменнікамі-„белавежцамі". Сустрэліся мы ўжо з Алесем Барскім, Віктарам Шведам, Сакратам Яновічам, а ў апошнія дні снежня мінулага года наведаў нашу школу Васіль Петручук. Расказаў ён нам пра сваё цяжкае дзяцінства. Нам сёння аж не верыцца, што так калісь жылі людзі на вёсках. На канец сустрэчы мы купілі кніжкі Васіля Петручука „Пожня". Рады мы гэтай цікавай сустрэчы і чакаем наступных.*

*У сувязі з наступленнем Новага 1988 года жадаем поспехаў у працы і штодзённым жыцці.*

**Вучні VIIб класа**
**Пачатковай школы ў Орлі**

### ДОБРЫ ДЗЕНЬ „ЗОРКА"!

*Мне 13 год. Вучуся ў 7 класе. Наш горад невялікі, але і не малы. У нашым горадзе восем школ. Ёсць Дом піянераў. Ён вялікі і прыгожы, як палац. Ёсць і Палац культуры.*

*Я хачу перапісвацца з дзяўчаткамі і хлопцамі вашай краіны. Я веру, што знойдуцца ахвотныя дзяўчаты і хлопцы, якія захочуць са мной перапісвацца. У мяне ёсць малодшая сястра Аня, вучыцца ў 3 класе, яна таксама вельмі хоча перапісвацца з равеснікамі. Наш адрас: СССР, 163901, Архангельская обл., г. Новодвинск ул. 50 лет Октября д. 42а,* **Куриковой Анастасии і Куриковой Анне.**

### ДОБРЫ ДЗЕНЬ „ЗОРКА"!

*Піша вам вучань 8 класа. Мне 15 год. Маёй сястры Свеце 13, а брату Дзянісу 12 год. Найстарэйшай сястры 17 год. І ўсе мы хочам з вамі перапісвацца. Напішыце, калі ласка, мой адрас у „Зорку".*

*Я цікаўлюся акварыумам, рыбкамі. Маё хобі — маркі, старынныя і замежныя манеты. Вельмі прашу, не адкіньце мой адрас. Я вельмі хачу мець сяброў з Польшчы. Адрас: СССР, 163061, г. Архангельск, пр. Новгородский, д. 165 кв. 75,* **Салмин Сергей.**

## ЗА ШТО Я ЛЮБЛЮ ЗІМУ?

Чаму,
Не ведаю сама,
Мне падабаецца зіма?
Можа за белы
Мяккі снег?
А мо за санак
Хуткі бег?
А мо за лыжы
І канькі,
Якія клічуць
Да ракі,
Дзе ззяе
Звоніць сіні лёд?
А мо за свята
Новы год?

## Вучнёўская творчасць

### ІДЗЕ НОВЫ ГОД

Ёлка, ёлка, карагод,
Хутка прыйдзе Новы год!
Пойдзем весніцы здымаць,
Каб традыцыю захаваць

Ну, а я, Міколка, Збышак,
Прыцягнулі мяшок шышак.
Каб на ёлку пачапіць, —
Запах лесу прыпомніць.

Будзем дружна мы гуляць,
Песні весела спяваць,
Ёлку ў шышкі ўбіраць,
Падарункі даваць.

**Яніна Кандрацюк**
Школа ў Ласінцы

### ДАРАГАЯ „ЗОРКА"

Я вучуся ў восьмым класе Пачатковай школы ў Гародчыне, а жыву ў Ляхах. Я люблю вывучаць беларускую мову. Яе вучыць нас настаўніца Ірына Юрчук. „Зорачка", высылаю Табе свой верш.

### САЛДАТ

Ідзе салдат
Праз палі і лясы.
Ідзе праз
Чорнае мора.
Ідзе разам з намі
па шчасце і мір.
Ідзе шукаць
нашу праўду.
Я бачу яго
далёка ў небе,
Як голуба ён
ад Бога нясе,
Каб мір быў
ва ўсім свеце!
І шчасце, было
заўсёды.

**Аня Дзмітрук,**
школа ў Гародчыне.

### ЁЛКА

Ёлка, ёлачка,
Пахучая, зялёная
Да нас з лесу прыйшла,
Радасць нам прынясла.
Мы цябе ўбралі
У бомбкі, светлікі
І ланцужкі.

**Ася Коўнер,**
IV клас, школа ў Лісінцы

З суседскага агародчыка

## СПЕШНА

Неяк сябар сказаў мне:

— Паслухай, чаму майго сына не вучыш пісьменніцкаму рамяству? Прашу, зрабі з яго пісьменніка.

— Ну, ведаеш, твой сын наогул здольны, але пісьменніка з яго не атрымаецца.

— Бачыш, — сказаў сябар, паказаў на яблыню і дадаў: — Калі не будзеш клапаціцца, паліваць, абкопваць, зрэзваць сухія галінкі, ці ж дасць яна плён?

— Безумоўна, не дасць, — адказаў я.

— Вось бачыш, — узрадаваўся сябар. — Значыцца, і майму сыну патрэбны клопаты. Навучы яго, зрабі пісьменнікам.

Тады я паказаў яму вярбу:

— Калі паклапаціцца аб гэтым дрэве, абрэзаць сухія галінкі, абкапаць, ці дасць яно яблыкі?!

— Не, ні ў якім разе, — сказаў сябар.

— Значыцца, мы зразумелі адзін аднаго?..

**Саро Ханзадзян**

## ПРЫМХІ

У прымхі верыў Ціт заўзята
І парушаць іх ён баяўся.
Аднак трынаццатай зарплаты
Ён браць ніколі не цураўся.

**Андрэй Лешчанка**




# НІЎКА



## ЗАСЦЯРОГА

Пан Задрыпкоўскі трохі спазніўся ў тэатр. Здаўшы паліто ў гардэроб, ён засяшаўся на балкон.

— Вы павінны пачакаць антракту, — гаворыць кантралёр.

— Але чаму вы не можаце адчыніць мне цяпер?

— Гледачы паўдзякаюць.

## ПЕРАШКОДА

— Па тваёй руцэ чытаю, што ў хуткім часе ты павінен ажаніцца, — кажа варажбітка маладому задрыпанцу. — Але бачу і тое, што на тваім шляху стаіць другая жанчына.

— Гэта, няйначай, мая жонка. Усюды яна ўлезе...

## РОСТ ЗЛАЧЫННАСЦІ

— Ведаеце, пане Задрыпкоўскі, сучасныя фільмы значна ўплываюць на рост злачыннасці.

— Гэта сапраўды так. Учора я глядзеў такую кінакамедыю, што калі б мне сустрэўся аўтар, я яго б застрэліў.

## АБНОВА

— Алачка, ты бачыла, якое паліто мы з татам купілі табе сёння?

— Так, мамцю, — нявесела ўсміхнулася дачуся. — І я вельмі рада, што вы ўжо цяпер клапоціцеся пра маю старасць!



**Страшная справа:** чым менш думаеш, тым больш аднадумцаў.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Не сумуй, мілая, — пацяшае жонку паміраючы муж, — можа, ты зноў выйдзеш замуж...

— Хто возьме такую старую? Вось калі б гэта здарылася хоць бы год дзесяць назад...

*

— На гэта месца, сіньёр, мы можам прыняць чалавека прыкладных паводзін.

— Вось і цудоўна! Мяне выпусцілі з турмы датэрмінова менавіта з-за прыкладных паводзін!

*

У адным дацкім мястэчку ўрачыста адкрывалі новую бальніцу. На адкрыццё прыбыў сам кароль. Па дарозе да бальніцы яго вітаў вялікі натоўп дзяцей.

— Дзеці? — здзівіўся кароль. Адкуль вы ўзялі столькі дзяцей?

— Ваша каралеўская вялікасць, — сказаў горда бургамістр, — мы рыхтаваліся да вашага візіта некалькі год.

## ПРАБЛЕМА

— Ведаеш, Кастусь, не вазьму ўцям, што купіць жонцы на дзень нараджэння.

— А ты ў яе спытай.

— О, не! Дзе я вазьму столькі грошай!

## ПАКРЫЎДЗІЎСЯ

Жонка раніцай звяртаецца да мужа:

— Ты зноў, Пятро, ноччу скрозь сон штосьці гаварыў!

Муж:

— Ды ніўжо мне і ў сне слова нельга сказаць?

З „Весніка Задрыпоніі"

## НАВІНЫ ГАНДЛЮ

З улікам наяўных у продажы асартыментаў тавараў зменена назва магазіна адзення „Рамэо і Джульетта". Цяпер ён называецца „Адам і Ева".

## ПАРАДА ЛЕКАРА

Калі вы хочаце рэзка пахудзець, трэба быць поўным.



Усе пайшлі на выстаўку сабак.

# МІНІВЕРШЫ

## СУМНЕННЕ

Ці не занадта многа вострых слоў
Аб тупасці і ўпартасці Аслоў?

## ПРЫЛІПАЛА

Прыліп да яблыка слімак:
— А я яму даўно дружбак.

## ЦЫГАРЭТА

Яна хвалілася адным:
„Начальству па нутру мой дым".

**Мікола Мінчанка**

## СУПОЛЬНЫЯ ЭЛЕМЕНТЫ





Малайчына той, хто на працягу 15 мінут знойдзе сем аднолькавых элементаў, якія выступаюць у абодвух малюнках.

# Курэзы

## „СКАЧКІ ПАД 45°"

Гэта адно з самых рызыкоўных спаборніцтваў у традыцыях „Дзікага Захаду". Яны адбываюцца ў Амацы, маленькім мястэчку штата Вашынгтон (ЗША). Удзельнікі спаборніцтва павінны праімчацца вярхом на 70-метровым адрэзку стромкага (укос 45°) схілу і зрабіць, не пакідаючы сядла, галавакружны скачок у сцюдзёную ваду ракі Акамаган. Калі гэта ўдалося, то далей трэба справіцца з плынню ракі, выбрацца на супрацьлеглы бераг і скакаць да фінішу — арэны радэа. На кожным спаборніцтве гіне прынамсі адзін конь, многія коннікі атрымліваюць сур'ёзныя раненні, але, на шчасце, „скачкі пад 45°" абыходзіліся пакуль без смяротных выпадкаў.

## СЯРОД ВЯЛІКІХ

Выдавец сказаў Вальтэру:

— У мяне ёсць мноства скандальных анекдотаў пра вас, але я ўстрымаюся ад іх публікацыі, калі вы дасце мне тысячу луідораў.

— У мяне таксама ёсць шмат скандальных анекдотаў пра мяне. Я ахвотна аддам іх вам за пяцьдзесят луідораў, — адказаў Вальтэр.




**Удар ніжэй пояса** часта прыпадае ў самусенькае сэрца.